**№ 171 (1235)**
Чацвер, 13 верасня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

# Народная Воля

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, кароткачасовыя дажджы. Вецер заходні, 5—10 м/с, парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ў Гродне — +12...+14, Мінску, Віцебску і Брэсце — +13...+15, Гомелі і Магілёве — +14...+16.

У наступныя двое сутак у паўночна-заходняй частцы краіны — кароткачасовыя дажджы. Вецер паўднёвы, 6—11 м/с. Тэмпература паветра 14-га ўначы — +7...+12, удзень — +14...+19; 15-га ўначы — +9...+14, удзень — +16...+21.



**ПУЛЬС**

## Даныя "Незалежнага назірання" істотна разыходзяцца з афіцыйнай інфармацыяй

**Звесткі аб выніках прайшоўшых выбараў, якія маюць прадстаўнікі грамадзянскай ініцыятывы "Незалежнае назіранне", істотна разыходзяцца са звесткамі, прадастаўленымі Цэнтральнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў. Пра гэта расказалі кіраўнік Цэнтральнага каардынацыйнага савета па назіранні за выбарамі Мечаслаў Грыб і старшыня Беларускага рэспубліканскага клуба выбаршчыкаў Уладзімір Гудзееў.**

Паводле слоў Грыба, з-за моцнага супрацьдзеяння ўлад (выдаленне назіральнікаў, непрадстаўленне звестак, адключэнне сувязі і г.д.) пакуль не ўдалося сабраць поўных звестак па ўсіх назіраемых участках. Тым не менш на сённяшні дзень ёсць звесткі прыкладна па 60—70 працэнтах тых выбарчых участкаў, дзе знаходзіліся незалежныя назіральнікі. "Звесткі, якія прадастаўляе ўлада, і нашы звесткі значна разыходзяцца, — заявіў Грыб. — Паводле інфармацыі ўлад, у датэрміновым галасаванні ўзялі ўдзел крыху больш за 14 працэнтаў выбаршчыкаў, паводле нашых звестак — больш за 20 працэнтаў.

На прэс-канферэнцыі былі прыведзены дзесяткі фактаў канкрэтных парушэнняў і фальсіфікацый, учыненых падчас галасавання і пры падліку галасоў. "Мы не можам лічыць гэтыя выбары дэмакратычнымі, — сказаў Грыб. — Толькі да галасавання мы склалі больш за тысячу актаў аб сур'ёзных парушэннях і накіравалі іх у розныя органы. Але толькі на 107 мы атрымалі адказы, і толькі 7 з іх былі задаволены".

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**



## Дзеючы старшыня АБСЕ адзначае неадпаведнасць выбараў у Беларусі стандартам АБСЕ

**Дзеючы старшыня АБСЕ, міністр замежных спраў Румыніі Мірча Джаанэ выказаў шкадаванне наконт таго, што выбары прэзідэнта Беларусі не адпавядалі стандартам АБСЕ. Пра гэта гаворыцца ў прэс-рэлізе, распаўсюджаным 11 верасня АБСЕ ад імя дзеючага старшыні арганізацыі.**

Адначасова сп. Джаанэ вітаў "з'яўленне сапраўдных палітычных структур, якія бяруць свой пачатак у набіраючай сілу "плюралістычнай грамадзянскай супольнасці". Ён таксама заяўляе, што "новая палітычная кааліцыя, якая прадстаўляе шырокі спектр сіл, і паспяховая падрыхтоўка вялікай колькасці назіральнікаў за выбарамі даюць надзею на лепшае і служаць сур'ёзным стымулам для АБСЕ ў далейшым узмацніць дзейнасць КНГ па прасоўванні дэмакратычных прынцыпаў, каштоўнасцяў і працэдур у Беларусі".

**Уладзімір ГЛОД.**

## Расія перашкаджае экспарту беларускай драўніны

**Выкід на сусветны рынак расійскага лесу па дэмпінгавых цэнах абвастрыў праблему экспарту беларускай драўніны. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Нацыянальным прэс-цэнтры заявіў міністр лясной гаспадаркі Валянцін Зорын.**

Паводле яго слоў, звужэнне знешняга рынку драўніны выклікана тым, што еўрапейскія краіны свае патрэбы ўсё больш забяспечваюць за кошт нацыянальных лясных рэсурсаў. Ураган "Латар", які ў 1999 годзе паваліў 200 мільёнаў кубаметраў лесу на поўначы Італіі, у Аўстрыі, Германіі і ў Францыі, таксама скараціў імпартныя патрэбы шэрагу краін, сказаў Зорын.

Паводле яго слоў, рэалізаваць айчынную драўніну на знешніх рынках становіцца ўсё цяжэй, а калі гэта і атрымліваецца, то па вельмі нізкіх цэнах. Пры гэтым міністр падкрэсліў ролю Расіі ў абвастрэнні праблемы экспарту беларускай драўніны: "На знешнім рынку мы не можам канкурыраваць з Расіяй, якая пастаўляе ў Еўропу лес па цэнах, прыкладна ў два разы ніжэй за агульнапрынятыя".

## У Светлагорску закрываюць філіял Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя

**Улады Светлагорска (Гомельская вобласць) вырашылі закрыць філіял Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. Пра гэта БелаПАН паведаміў старшыня гарадской рады грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Вадзім Болбас.**

Паводле яго слоў, загадчыца гарадскога аддзела адукацыі Галіна Філіповіч накіравала дырэктару філіяла Тэльману Маслюкову загад аб закрыцці навучальнай установы. Згодна з ім, усе ліцэісты пераводзяцца ў склад вучняў 1-й школы з абяцаннем захаваць выкладанне на беларускай мове, а адзін з будынкаў навучальнай установы перадаецца Дому дзіцячай і юнацкай творчасці. Прычым усё гэта падаецца як рэарганізацыя навучальнай установы, падкрэсліў Болбас.

Нетрадыцыйная сістэма навучання, выкладанне ўсіх прадметаў на беларускай мове і свабодныя зносіны паміж ліцэістамі і выкладчыкамі выклікалі пастаяннае незадавальненне мясцовых улад, сказаў Болбас. Паводле яго слоў, апошняй кропляй, якая перапоўніла чашу цярпення гарадской "вертыкалі", стала сустрэча навучэнцаў, настаўнікаў і гарадской інтэлігенцыі з пісьменнікам Уладзімірам Арловым, бардамі Зміцерам Бартосікам і Вольгай Цярэшчанка.

Светлагорскі філіял Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа адкрыўся ў 1992 годзе і ажыццявіў ужо пяць выпускаў. Адным з яго сузаснавальнікаў выступіла мясцовая арганізацыя ТБМ.

**Марат ГАРАВЫ.**

## ...І сустрэне ўнучка Генадзя Карпенкі перамогу

З таго вечара прайшло ўжо некалькі дзён. А ў мяне перад вачыма — Кастрычніцкая плошча, дождж, людзі... Сярод тых, хто прыйшоў сюды, каб разам пачуць аб выніках выбараў, — Людміла Філіпаўна Карпенка. Жонка таго чалавека, вакол якога, калі б ён быў жывы, даўно згрупавалася б нацыя. Менавіта ён быў спадзяваннем мільёнаў беларусаў, надзеяй на лепшы заўтрашні дзень.

Але яго няма сярод нас. Жорстка абыходзіліся ўлады з Генадзем Дзмітрыевічам Карпенкам, шмат незразумелага ў абставінах яго смерці.

І вось, нягледзячы на позні вечар, халодны дождж, бачу на плошчы ў цэнтры Мінска сярод прыхільнікаў дэмакратыі Людмілу Філіпаўну. Побач з ёю дачка, зяць. Мужчына трымае на руках маленькую дзяўчынку з парасонікам. Унучка Генадзя Карпенкі разам з тымі, каму небыякавы лёс Беларусі...

Не, будучыня нашай краіны не за адыёзнымі замяталінымі, азаронкамі, зімоўскімі, новікавымі, а за ўнучкай Генадзя Карпенкі. Разам з бабуляй, Людмілай Філіпаўнай, яна сустрэне Перамогу дэмакратыі на цэнтральнай плошчы нашай сталіцы. І гэта, хочацца верыць, будзе хутка.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

# ТЕРРОРИЗМ ОБЪЯВИЛ ВОЙНУ МИРУ



*Второй "Боинг" таранит одну из башен Всемирного торгового центра в Нью-Йорке.*



*Ужас и паника на улицах Манхеттена.*



*Минск, 12 сентября 2001 года. У посольства США. Белорусы соболезнуют американцам.*

**Фото IREX/ProMedia.**

## Подобных разрушений от террористических актов планета еще не знала

**Обозреватели уже назвали 11 сентября вторым "Пёрл-Харбором", или новой точкой отсчета не только для США, но и для всего мира. Террористы, представляющие, по многим версиям, исламский фундаментализм, продемонстрировали свое истинное античеловеческое нутро.**

### Хроника катастрофы

Приводим последовательность последних событий в США, согласно сообщениям Си-Эн-Эн. Время — минское.

**15.58** Реактивный самолет врезается в одно из зданий Всемирного торгового центра в Нью-Йорке и пробивает его насквозь.

**16.16** Второй самолет врезается в другое здание Центра. Звучит взрыв.

**16.20** Сообщается, что ФБР получило оперативные донесения о захвате самолетов незадолго до взрывов.

**16.30** Президент Джордж Буш объявляет: "Произошла национальная трагедия. Два самолета врезались во Всемирный торговый центр в ходе внезапной террористической атаки на нашу страну".

**16.43** Телевидение Абу Даби сообщает, что в редакцию поступил звонок из Демократического фронта освобождения Палестины. Говоривший утверждал, что Фронт берет на себя ответственность за теракт.

**16.43** Поступает сообщение о третьей атаке. На этот раз самолет протаранил Пентагон — здание Министерства обороны Америки.

**16.45** Белый дом эвакуирован из-за опасения дальнейших атак.

**16.50** Все аэропорты в США закрыты.

**17.07** Падает южная башня Торгового центра.

**17.25** Бомба взрывается в машине рядом с Госдепартаментом США.

**17.27** Падает северная башня центра.

**17.30** Рушится одно крыло здания Пентагона.

**17.30** Поступает сообщение о катастрофе самолета, произошедшей около Питсбурга...

По самым последним сведениям, число жертв в Нью-Йорке составляет 10 тысяч человек. Около 800 человек погибли или пропали без вести при падении самолета на Министерство обороны США — Пентагон.

## Последние слова погибших пассажиров

Американская пресса сообщает новые данные о недавних терактах, по крупицам собирая свидетельства авиадиспетчеров. Уже через несколько минут после захвата террористы на самолете, рухнувшем впоследствии на Пентагон, потребовали, чтобы владельцы сотовых телефонов позвонили своим родственникам и сообщили о своей скорой смерти. Два звонка мужу сделала Барбара Ольсон, бывший федеральный прокурор. Она успела сказать, что самолет захвачен террористами, которые потребовали, чтобы пассажиры и один из пилотов заняли места в хвостовой части самолета.

Еще три звонка сделали пассажиры одного из "Боингов", врезавшихся впоследствии в здание Всемирного торгового центра. Два звонка, по информации газеты, сделали стюардессы, еще один — пассажир. Звонили как в службу 911, так и родственникам. Один из пассажиров "Боинга" (предположительно бизнесмен, находившийся либо на борту American Airlines, либо на борту United Airlines) сообщил по телефону своему отцу, что террористы начали убивать стюардессу, выманив таким образом из кабины "Боинга" пилотов, после чего захватили самолет.

Одна из стюардесс связалась со службой спасения 911 и сообщила, что террористы зарезали несколько бортпроводников, и самолет падает на Нью-Йорк, другая позвонила своему мужу, чтобы попрощаться.

Также удалось выяснить некоторые детали, касающиеся террористов. В отчете полиции, на который ссылается газета, говорится о том, что как минимум пять террористов, подозреваемых в захвате одного из "Боингов", были арабами. Об этом свидетельствует, в частности, тот факт, что в непосредственной близости от международного аэропорта Логан была обнаружена машина, где находились инструкции по управлению самолетом на арабском языке. Среди пассажиров одного из "Боингов", врезавшихся в здание Всемирного торгового центра, по информации газеты, были два брата араба, один из которых имел летные навыки.

По последней информации, один из авиадиспетчеров, который вел переговоры с бортом "Боинга-767", вылетевшим рейсом номер 11 во вторник в 7.45 по местному времени из Бостона в Лос-Анджелес, слышал голос террориста. Террорист произнес фразу "Без глупостей!" на английском языке. После этого радиосвязь с бортом прервалась...

**"Вашингтон Пост".**

*(Продолжение на 3-й стр.)*

**НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА**

# Смогут ли белорусы разбогатеть на золоте?



**Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук**

С давних времен золото выполняет функции всеобщего товарного эквивалента. Оно само по себе красиво, химически нейтрально: не окисляется, легко делимо — плавится при сравнительно невысокой температуре и т.п. Золотомонетные деньги не знали инфляции, т.к. обладали, кроме меновой, еще и внутренней стоимостью. Поэтому золото идеально в качестве средства накопления.

Однако со временем люди поняли, что золотые деньги имеют и ряд недостатков. Несмотря на его портативность (малый объем и большая ценность), чтобы носить большое количество золота с собой, требовалось шить специальные костюмы. Взять хотя бы штаны-голифе у венецианских купцов, широкие пояса, куда закладывались мешочки с золотыми монетами. Но главное в том, что с золотыми деньгами у государств появились проблемы в обеспечении товарооборота растущей экономики. Их требовалось все больше и больше, а далеко не все страны были золотодобывающими. Поэтому и появились заменители золотомонетных денег — бумажные.

Образно говоря, государства изъяли золото из обращения, сложив его в свои подвалы, а на эту сумму выпустили разного номинала банковские ноты — обязательства банков по первому требованию предъявителя банкнот обменять их на золото. Так, или примерно так, появилось понятие государственного золотого запаса, служащего сегодня в качестве обеспечения тех денег, которые все мы, кто больше, кто меньше, имеем в своих карманах, сумках, кошельках.

Если бумажных денег выпущено (эмитировано) государством по нарицательной стоимости (номиналу) больше, чем имеется золотого запаса, они начинают обесцениваться, подвергаться инфляции. Пока банкноты обменивались на золото, бумажные деньги имели твердый курс. Раннее на них и указывалось, какое весовое количество золота они представляют. Поэтому обменные курсы валют развитых государств были стабильны. Это время, время XIX века, так и назвали — эпоха золотого стандарта. Золото в слитках и монетах служило основным международным платежным средством, в этом качестве оно придавало стабильность межгосударственной торговле.

Но уже к середине XX столетия развитые государства, которые всегда задавали тон в международных экономических отношениях, отказались от обмена бумажных денег на золото. Не в последнюю очередь этому способствовали и мировые войны, которые расстраивали денежное обращение воюющих стран. В мировой торговле все большую роль как платежное средство стала играть так называемая твердая валюта. Сначала доллар США и английский фунт стерлингов, позднее немецкая марка и японская йена. Но это валюта развитых стран. Советский Союз, например, расплачивался с союзниками по антигитлеровской коалиции за их поставки по ленд-лизу золотыми слитками. Благо Россия всегда была золотодобывающим государством.

После второй мировой войны господствующее положение в мировой валютной системе захватил американский доллар. И сегодня примерно 70% международных сделок осуществляется в американской валюте. Усилились в последние годы и позиции немецкой марки и японской йены. Сохраняют имидж сильной валюты фунт стерлингов, а также швейцарский франк. Швейцария — страна банков. Вышеупомянутые пять твердых валют еще называют резервными. Кроме того, что они обмениваются во всех странах, их предпочитают накапливать в резервы центробанки всех стран как надежное платежное средство. Отсюда и название — золотовалютные резервы государства.

А что же золото как платежное средство в настоящее время? Страны, входящие в систему МВФ, договорились вывести его из сферы международных расчетов. В последние годы на мировом рынке золото в основном падало в цене. Многие страны, а это и США, и Швейцария, и государства Южной Америки, производят крупномасштабные продажи золота из своих резервов. Ведь золото, лежащее в подвалах банков, для текущей экономики бесполезно, покрывается паутиной и отложено как бы на "черный день". Оно как бы в потенциале экономики, что имеет психологическое значение для нации — она увереннее себя чувствует.

Сейчас наибольшее количество золота в своих резервах имеют, конечно, развитые страны. У США его примерно 9000 тонн, у Германии, Франции и Японии не меньше 3000 тонн у каждой страны. Свыше 2000 тонн у Великобритании и Италии. У Советского Союза, несмотря на недавнюю тяжелейшую войну, в пятидесятые годы было еще порядка 2500 тонн золота. К началу 90-х годов в суверенной России насчитывалось в резерве всего 200 тонн презренного металла. Советские власти в последние свои годы явно не "чахли над златом", а бездарно его растрачивали.

Сколько же золота и других драгоценных металлов и драгоценных камней сегодня в недрах Нацбанка Беларуси? Как правило, государства это не любят разглашать. Но счет явно надо вести на немногие единицы тонн. Россия довольно успешно восстанавливает свой золотовалютный потенциал. В долларовом эквиваленте он перевалил за 30 млрд. В Беларуси резервы порядка 200 млн. долларов. Увы, в отличие от России у нас нет серьезных запасов золота и нефти, совсем нет природного газа. А запасы валюты и золота на "черный день" и для обеспечения белорусского рубля о, как надо иметь! За все последние годы суверенитета страны этот "черный день" от нас далеко и не уходил. Вспомните финансовый кризис 1998 года.

Если говорить о золоте на обывательском уровне, то здесь мы не так бедны. "Рыжья" у населения Беларуси, в основном в виде ювелирных украшений, на руках и других прелестях наших женщин куда больше, чем в подвалах Нацбанка. Но это частное золото. Собрание разного рода колечек, цепочек, кулонов и прочего имеет почти каждая семья. Случается так, что нужно превращать это в деньги. И здесь население сталкивается с проблемами. Как и в советские времена, те немногие государственные пункты скупки примут у вас ювелирные изделия по цене золотого лома, больше дадут цыгане. Комиссионные магазины продадут ваши фамильные драгоценности не сразу и возьмут при этом неслабый процент себе. Так что лучше уж иметь накопления капитала в "зеленых". К слову сказать, доллар — он и в Африке доллар не только потому, что у США крупнейшие резервы золота (кстати, больше всех золота добывает ЮАР), а потому, что крепость доллара обеспечивается всей мощью американской экономики. Той массой качественных и высокотехнологичных товаров и услуг, которую она производит. Если мы не имеем таких товаров и услуг, нам нужны хотя бы золото и твердая валюта.

Думается, исходя из этих побуждений, свою "золотую политику" пытается вести Нацбанк Беларуси. Не так давно им выпущены золотые и серебряные памятные и юбилейные монеты, посвященные 2000-летию христианства и Сиднейской олимпиаде, номиналом... 50 (золотая) и 20 (серебряная) белорусских рублей. При этом было официально указано, что "памятные монеты являются законным платежным средством Республики Беларусь и обязательны к приему по номиналу во все платежи безо всяких ограничений". Любой гражданин может их приобрести, но по цене вполне рыночной, а расплачиваться в магазине выходит по номиналу. Вряд ли кто пробовал это сделать. Попробуйте выложить за буханку хлеба несколько золотых монет, а потом посмотрите на выражение лица кассира. Значит, монеты чеканились исключительно для коллекционеров? А как же народ? Карикатурны были и попытки Банка России запустить в обращение золотомонетный червонец, который не признал как средство платежа за свой товар ни один продавец, хотя ему был придан солидный рыночный эквивалент.

В августе Нацбанк объявил о начале реализации мерных слитков золота юридическим и физическим лицам весом 1, 5, 10, 50, 100, 250, 500 и 1000 граммов (оказывается, есть слитки весом 1, 5, 10 граммов). Подозревается, что это делается в целях дедолларизации белорусской экономики. Предполагается, что юридические лица и население смогут позже размещать это золото на депозитах в коммерческих банках под проценты. Естественно также предположить, что Нацбанк и коммерческие банки будут выкупать золото обратно, играя на разницах в ценах. Все это согласуется с нормальной рыночной экономикой — создать цивилизованный прозрачный рынок золота. Но возникает много вопросов. Кто будет покупателем слитков среди юридических лиц, кроме коммерческих банков? Насколько серьезно можно рассчитывать на масштабные приобретения золотых слитков, пусть и очень маленьких, со стороны обнищавшего населения? Если курс золота на мировом рынке нестабилен и чаще идет вниз, чем вверх, то доллар как стоял, так и стоит.

Впрочем, можно пожелать Нацбанку успехов в благом деле, закончив словами героя из бессмертного "Золотого теленка": "Пилите, Шура, пилите..."

